# Музейныя вандроўкі

№1

velcom

Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь

З поля бітвы на баль.

Мужныя рыцары і чароўныя дамы Беларусі

# Змест нумара


Кола часу 4-5

Хто такія рыцары 6-7

Выхаванне рыцара 8-9

У рыцарскай збраёўні 10-11

Чароўныя дамы Сярэднявечча 12

Лабірынт і рэбусы 13

Шляхта Беларусі 14-15

Рыцарскія турніры 16

Замкі 17

Казка «Выратаванне Анэлі» 18-19

Вясёлыя цікавосткі 20-21

Незвычайны Мінск 22-23

Крыжаванка, слоўнічак 24



Гісторыя адкрывае свае таямніцы толькі цікаўным!
З яе дапамогай можна адправіцца ў сапраўдную вандроўку па старажытных часах.
Трэба толькі на хвіліну заплюшчыць вочы – і вось перад табой ужо мужныя рыцары ў бліскучых даспехах, прыгожыя дамы ў цудоўных сукенках, велічныя палацы і замкі… «Пачакайце! Якія ж рыцары, палацы і замкі?! – скажаце вы. – Мы ж не пра нейкія далёкія краіны гаворым! Хіба гэта ўсё было тут, на Беларусі?».

Так, канечне ж, было! І з дапамогай часопіса, які ты зараз чытаеш, мы паспрабуем раскрыць табе ўсе таямніцы беларускай гісторыі, дапаможам зазірнуць у самыя яе глыбіні і адшукаць там сапраўдныя цуды! Думаю, ты пагадзішся, што вандраваць лепей за ўсё з надзейнымі сябрамі. Таму дапамагаць табе ў гэтай захапляльнай справе будуць хлопчык Васілёк і птушка Цікаўка.
Калі ты гатовы, можна пачынаць нашую першую вандроўку.

Хутчэй наперад!



Прывітанне, мае дапытлівыя сябры!
Я – птушка Цікаўка, а гэта мой сябра Васілёк!
Сёння мы з вамі распачнём захапляльную вандроўку па старонках гісторыі роднага краю. Я пабывала ў розных куточках нашай краіны, пабачыла шмат цікавага і новага. Усім самым цудоўным і захапляльным я хачу падзяліцца з вамі і Васільком! Разам мы раскрыем таямніцы старажытных замкаў і дапаможам рыцару ратаваць даму сэрца. У суправаджэнні прыгожых паннаў мы наведаем сапраўдны баль. А таксама даведаемся, як шукаць скарбы і якія сакрэты хавае сталіца Беларусі – Мінск.
Узбагаціць свае веды па гісторыі нам дапамогуць музейныя прадметы. А творчыя заданні і складаныя галаваломкі не дазволяць сумаваць. Накіроўваемся ў падарожжа!





**Заданне:** Запішы ў пустыя клеткі момант твaёй першай сустрэчы з гэтым часопісам (час, дзень, месяц, год).

Усе мы сутыкаемся з часам. Мы сочым за ім, каб не спазніцца ў школу, не прапусціць любімы мульцік, нарэшце, каб не забыцца на Дзень нарадзінаў сваіх родных і іншыя цудоўныя святы. Секунда змяняе секунду, на змену сённяшнему дню прыходзіць наступны, а год змяняецца годам. "У адну раку нельга ўвайсці двойчы," - сказаў старажытны філосаф. Сапраўды, кожны момант, кожнае новае імгненне не падобнае да іншага!

__ : __

__ . __ . ____

Заданне:
Запішы на пустых радках памятныя даты твайго жыцця (дзень нараджэння, першае слова і крок, першы паход у дзіцячы садок і школу, сустрэча з першым сябрам)

21 стагоддзе

НОВЫ ЧАС

*Усё нашае жыццё складаецца з шэрагу падзей, якія аб'ядноўваюцца ў асабістую гісторыю кожнага чалавека. Яна не падобная да іншых. Аднак існуе і агульная гісторыя чалавецтва, вывучэннем якой займаецца спецыяльная навука. Напэўна, ты ўжо здагадаўся, як яна завецца?*

**Навука гісторыя займаецца вывучэннем жыцця людзей у мінулым.**

Каб не заблытацца ў вялікай колькасці падзей, можна запісаць іх на спецыяльнай стужцы – стужцы часу. Яе для цябе і Васілька падрыхтавала Цікаўка. Стужку дзеліць канкрэтная дата – год нараджэння Ісуса Хрыста. Людзі прынялі гэты год за першы. З гэтай падзеі мінула ўжо 2014 гадоў, і мы жывём у 2015 годзе пасля нараджэння Хрыста.

"А што, хіба нічога да нараджэння Ісуса Хрыста не было на Зямлі?" – спытаеце вы. Натуральна, было! Але гады і стагоддзі да Хрыстова нараджэння лічаць у адваротным парадку. Час пасля нараджэння Хрыста людзі вырашылі называць "нашай эрай", а пра гады да Хрыстова нараджэння кажуць "да нашай эры". Напрыклад, горад Рым быў заснаваны ў 753 годзе да нашай эры.




Напэўна, ты ведаеш, што жывём мы ў 21-м стагоддзі. Вызначыць, да якога стагоддзя адносіцца дата, вельмі проста. Калі гэта год ад 1 да 999, то глядзі на першую лічбу і дадавай 1. Напрыклад, 325 год: 3+1=4 – 4-е стагоддзе! Калі гэта год, большы за 1000, то бяры дзве першыя лічбы і дадавай да гэтага чысла 1. Напрыклад: 1492 год: 14+1=15-е стагоддзе. А калі год заканчваецца на 00, то нічога дадаваць не трэба, першыя лічба ці дзве лічбы ўказваюць на стагоддзе: 100 год – 1-е стагоддзе, 900 год – 9-е стагоддзе, 2000 год – 20-е стагоддзе.

# Сярэднія вякі

У першым нумары нашага часопіса мы паразмаўляем з вамі пра Сярэднія вякі. Гэты перыяд гісторыі доўжыўся ажно тысячу гадоў: з 5-га па 15-е стагоддзе, а дакладней – з 476 па 1492 год. Гэта велізарны і вельмі цікавы прамежак часу, калі жылі мужныя рыцары і чароўныя дамы.




1323г.
Заснаванне Вільні



1253г.
Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага



1410г.
Грунвальдская бітва



1067г.
Першы ўспамін пра Менск

15 стагоддзе

5 стагоддзе



1 г.н.э.
Нараджэнне Хрыста



1588г.
Статут ВКЛ

Старажытнасць






753 г. да н.э.
Заснаванне Рыма



**Заданне: Чытаючы часопіс, звяртай увагу на даты – гады і стагоддзі.**

# ХТО ТАКІЯ РЫЦАРЫ?

У Сярэднія вякі рыцарамі называлі прафесійных воінаў, галоўным абавязкам якіх з'яўлялася абарона сваёй Айчыны ад ворагаў. Упершыню рыцары з'явіліся на тэрыторыі Францыі яшчэ ў 8-м стагоддзі (падлічы, колькі стагоддзяў таму гэта адбылося), калі правадыр народа франкаў Карл Мартэл і яго сыны пачалі раздаваць надзелы зямлі сваім дружыннікам (гл. Слоўнічак, с. 24), каб заахвоціць іх абараняць Радзіму падчас вайны. Ад іншых воінаў рыцар адрозніваўся тым, што ваяваў на кані, а не пешшу. Іншыя каралі ўбачылі, што войска коннікаў значна мацнейшае за пешае войска. Кожны кароль захацеў мець рыцараў! За тысячу гадоў пешаму войску ўдалося перамагчы ў бітве коннікаў усяго некалькі разоў.



Спачатку рыцарамі маглі станавіцца нават простыя людзі. Войны вяліся часта, і князю прыходзілася ўвесь час набіраць рыцараў, каб папаўняць сваё войска. Ён запрашаў у рыцары сялян і даваў ім за гэта надзелы зямлі.



**Заданне:** Падлічы, ці хопіць Васільку кароў, каб набыць поўны рыцарскі рыштунак

Рыцарскія даспехі, зброя і конь каштавалі дарага. Напрыклад, у 10-м стагоддзі, калі людзі разлічваліся замест грошай свойскай жывёлай, за рыцарскі рыштунак (гл. Слоўнічак, с. 24) трэба было аддаць 45 кароў – статак цэлай вёскі! Адзін чалавек наўрад ці мог забяспечыць сябе ўсім неабходным. Таму князь або кароль абавязваў просты люд дапамагаць чалавеку, які станавіўся воінам. А той наўзамен павінен быў абараняць сваіх суайчыннікаў.

Такім чынам, у Еўропе паступова фарміравалася рыцарскае асяроддзе. За кароткі час яно стала даволі вялікім, таму ўжо на пачатку 11-га стагоддзя ў яго нельга было патрапіць простаму чалавеку. Рыцарства пачало перадавацца ў спадчыну (ад бацькі да сына) і падцвярджалася спецыяльнымі граматамі і гербам. Кожны рыцар меў свой асабісты герб – выяву, якая лепш за ўсё распавядала пра якасці, уласцівыя воіну. Часцей за ўсё для сваіх гербаў рыцары абіралі выявы львоў як сімвал адвагі і мужнасці, арлоў – сімвал незалежнасці і празорлівасці, мядзведзяў – сімвал моцы і нават адзінарогаў як сімвал чысціні і непераможнасці.



**Паразважай, як бы выглядаў твой герб і намалюй яго. Пра якія найлепшыя свае якасці ты хацеў бы распавесці ўласным гербам?**

Дарослыя бацькі-рыцары вучылі сваіх сыноў кодэксу рыцарства — спецыяльным правілам паводзін, згодна з якімі павінен быў дзейнічаць сапраўдны воін. Рыцар павінен быў любіць Радзіму і бараніць яе ад усіх ворагаў, слухацца свайго караля, казаць праўду і трымаць сваё слова, верыць у Бога, абараняць слабых і быць шчодрым.

Былі ў Сярэднія вякі свае рыцары і ў Беларусі, якія здабылі сабе славу не толькі ў межах Вялікага Княства Літоўскага. Па Расіі, Чэхіі, Аўстрыі, Турцыі, Швецыі ішла слава пра мужных беларускіх ваяроў і сапраўдных абаронцаў сваёй Айчыны!

# Выхаванне рыцара



Выхаванне будучага рыцара пачыналася рана. Да сямі гадоў хлопчыкі з высакародных сем'яў жылі з мамамі, бабулямі і служанкамі. Потым іх забіралі ў замак караля ці багатага магната. Гэтых дзяцей называлі пажамі. Цэлымі днямі яны вучыліся змагацца на мячах, дзідах, біцца на палках, страляць, ездзіць на кані, плаваць, паляваць. Таксама іх вучылі этыкету – гэта значыць, правілам добрых паводзін.



У 12-13 гадоў хлопчык станавіўся збраяносцам. Гэта значыць, памочнікам дарослага рыцара. У мірны час збраяносец даглядаў коней і сабак свайго рыцара, сустракаў яго гасцей, падаваў ежу, калі рыцар з гасцямі абедаў. А калі на краіну нападалі ворагі, хлопчык ішоў з рыцарам у паход, вазіў яго даспехі, дзіды і мячы.

Збраяносцам хлопец быў да 21 года. Пасля ён станавіўся рыцарам. Абрад пасвячэння быў надзвычай урачысты. Будучы рыцар пераапранаўся ў белую вопратку, на плечы накідваў мантыю пурпурнага колеру, на шыю павязваў пояс з мячом і кіраваўся ў царкву. Там яго чакалі святар і дарослы рыцар, а таксама бацькі, родныя і сябры, іншыя рыцары, запрошаныя на ўрачыстасць. Святар браў меч, асвячаў яго і вяртаў будучаму рыцару. Затым хлопец, склаўшы рукі на грудзях, станавіўся на калені перад дарослым рыцарам, які праводзіў абрад пасвячэння. Хлопец прамаўляў словы клятвы. Прысутныя на цырымоніі рыцары па чарзе падыходзілі да хлопца і ўручалі шпоры, кальчугу, наручы, наколеннікі. Хлопец здымаў пояс з мячом з шыі і падпярэзваўся ім, а пасля зноў станавіўся на калені перад старэйшым рыцарам. Той даставаў свой меч і тры разы біў ім хлопца па плячы або па шыі. Вядома, біў так, каб не параніць. Нарэшце, рыцар, атрымліваў шлем, шчыт і дзіду. Пасля пасвячэння быў баль.







Кожны рыцар павінен быў выбраць сабе даму сэрца і атрымаць у яе дазвол служыць ёй. У гонар дамы рыцар ваяваў на вайне і змагаўся на турніры, насіў вопратку колераў яе герба. Рыцар абавязаны быў здзяйсняць подзвігі, каб праславіць сваю абранніцу і быў гатовы выконваць любыя яе жаданні.

Галоўнай справай для рыцараў была вайна. Без абвяшчэння вайны рыцар напасці не мог. Калі ж перамагаў у бітве і браў праціўніка ў палон, дык мусіў абыходзіцца з ім у сваім замку як з ганаровым госцем. У вольны час рыцары палявалі: паляванне нагадвала вайну. Шмат часу рыцары надавалі ўмацаванню замка, а таксама выхаванню сваіх сыноў будучымі воінамі.

# У рыцарскай збраёўні

Ад удараў ворагаў рыцараў абаранялі надзейныя даспехі, шаломы і шчыты, а сваю моц воіны маглі паказаць з дапамогай разнастайнай зброі. Вага ўсяго рыцарскага даспеха складала ад 25 да 40 кілаграмаў, таму не дзіўна, што рыцары самі не маглі залезці на каня, і ім часам патрэбна была дапамога верных пажаў.

Прылбіца (шлем з рухомай часткай, якая бароніць твар)

Кіраса

Зарукаўі

Рукавіцы

Кальчуга

Двухручны меч

Наколенкі

Чаравікі





Пасля пасвячэння рыцар атрымоўваў увесь свой рыштунак: шлем, даспех, шчыт, кап'ё, меч і, канечне ж, каня. Цікава, што цяжкаўзброеныя рыцары ў бітву бралі з сабой звычайна трох коней і некалькі збраяносцаў. Збраяносцы ішлі на бітву пешшу, а падчас схватак заставаліся ззаду, з запаснымі коньмі і зброяй. Паміж бітвамі рыцары захоўвалі свой рыштунак ў спецыяльных памяшканнях у замку, якія называліся збраёўнямі. Адна з самых вялікіх і цікавых збраёўняў на тэрыторыі Беларусі была ў Нясвіжы, у палацы рыцараў з роду Радзівілаў.

**Заданне: Паглядзі, колькі цікавых рэчаў знайшла Цікаўка ў радзівілаўскай збраёўні. Дапамажы Васільку злучыць назвы і азначэнні рыцарскага рыштунку з малюнкамі.**

**Сякера** - гэтая небяспечнгая зброя адначасова з'яўляецца і неабходнай рэччу ў кожнай сялянскай хаце, з дапамогай якой можна секчы дровы.

**Шабля** - сякучая зброя з доўгім закрыўленым клінком, падобная да мяча.

**Брыгандына** - эластычны (такі, які можа расцягвацца, а потым зноў прымаць першапачатковую форму) даспех, набраны з невялікіх металічных пласцінак.

**Кісцень** - від зброі, ударная частка якой рабілася ў выглядзе гіркі і з дапамогай вяроўкі, ланцуга або цэпа мацавалася да невялікай рукаяці з дрэва.

**Шчыт** - элемент засцерагальнага ўзбраення, прызначаны для адбіцця атак.

**Алебарда** - зброя, якая спалучала ў сабе элементы кап'я, сякеры і крука, дапамагала сцягваць варожых рыцараў з іх коней.

**Арбалет** - зброя, разлічаная на паражэнне праціўніка на значнай адлегласці, падобная да лука, але зручнейшая ў выкарыстанні.

# Чароўныя дамы Сярэднявечча

У Сярэднявеччы існавала прыказка: у рыцара толькі два абавязкі – кахаць і ваяваць. Рыцары былі гатовыя на ўсё дзеля сваіх дам, але і дамы павінны былі адпавядаць ідэалам свайго рыцара. Лічыцца, што ўзорам прыгажосці ў той час былі жанчыны з бледнай скурай, рудавалосыя, з блакітнымі ці шэрымі вачыма. Асноўныя якасці, якія выхоўвалі ў будучых дамах, – стрыманасць, памяркоўнасць і мяккасць. Нават гучна размаўляць дзяўчатам не дазвалялася! Дзяўчынкі павінны былі жыць сціпла і не лайдачыць, а займацца нейкімі карыснымі справамі. Канечне, дамы ў той час не мылі посуд і не прыбіралі ў доме. Але яны, напрыклад, шылі сабе сукенкі, вышывалі або чыталі – такія ў іх былі заняткі.



Галоўнай справай у жыцці сярэднявечнай жанчыны лічылася выхаванне дзяцей. І ніхто нават не мог уявіць, што жанчыны могуць рабіць кар'еру, станавіцца ўрачамі, адвакатамі, вайскоўцамі! Аднак існавалі і цудоўныя выключэнні, без якіх гісторыя Сярэдніх вякоў не была б такой цікавай і прыцягальнай!

У гісторыі вядома імя англійскай князёўні Этэльфлед (жыла ў 10-м стагоддзі). Яе мужа цяжка паранілі ў баі, і яна пераняла ў яго кіраванне краінай. Мужная жанчына пабудавала некалькі гарадоў і магутных крэпасцяў, якія дапамагалі ёй паспяхова адбіваць напады вікінгаў-датчан.

Некаторыя дамы праславіліся тым, што дапамагалі развіццю культуры і мастацтва ў сваіх краінах. Напрыклад, Элеанора Аквітанская – каралева дзвюх дзяржаў і маці дзесяці дзяцей. Элеанора была надзвычай разумнай, адукаванай і энергічнай. Стаўшы ў 13 гадоў каралевай Францыі, яна таемна наведвала парыжскія школы (а дзяўчынкі раней вучыліся толькі дома), вывучала філасофію, літаратуру, гісторыю, мастацтва. Яна не толькі ўдзельнічала ў кіраванні дзяржавай, але нават хадзіла разам з мужам-рыцарам ваяваць у іншыя краіны. Пазней Элеанора стала каралевай Англіі, і пры яе двары жылі самыя лепшыя паэты, музыкі ды мастакі таго часу.





А самай знакамітай жанчынай-рыцарам Сярэдніх вякоў можна назваць Жанну д'Арк, імя якой з'яўляецца сапраўдным сімвалам Францыі. Дзякуючы яе мужнасці і рашучасці французы здолелі выратаваць ад англічан Арлеан, родны горад Жанны, і атрымалі яшчэ некалькі слаўных перамог у Стогадовай вайне. Лёс Жанны склаўся трагічна: яна трапіла ў палон да англічан, якія абвінавацілі яе ў зносінах з д'яблам і спалілі на вогнішчы. Пасля перамогі Францыі ў вайне французскі кароль зладзіў паўторны суд, на якім Жанна была цалкам апраўданая. Добрая памяць пра яе разышлася па ўсёй Еўропе.

лабірынт
Дапамажы Васільку прайсці Лабірынт да сваёй дамы сэрца!



Разгадай рэбусы, якія падрыхтавала для цябе Цікаўка! (адказы зможаш паглядзець у канцы нумара)

Бі + ''' + ВА

''' + ' '' + А

+ Ь
7,4,5

ГЕ +
1,3



Ø А



# ШЛЯХТА – РЫЦАРЫ БЕЛАРУСІ



**Беларусь – сапраўдная краіна рыцараў! Людзей, якія атрымлівалі ад князя зямлю за вайсковую службу на землях Вялікага Княства Літоўскага, у 12–13-м стагоддзях называлі баярамі. Аднак з канца 15-га стагоддзя больш распаўсюджанай становіцца назва “шляхта”, пад якой мы звычайна сустракаем апісанні подзвігаў слаўных рыцараў Беларусі.**



Найвялікшую славу ў Еўропе яны здабылі дзякуючы перамозе над рыцарамі-крыжакамі, якія былі галоўнай пагрозай Вялікаму Княству з захаду. Пераможная бітва адбылася ў 1410 годзе пад Грунвальдам – цяпер гэта малая вёска на тэрыторыі Польшчы.

Беларуская шляхта грала велізарную ролю ў Вялікім Княстве Літоўскім: бараніла сваю краіну ад ворагаў у шматлікіх войнах, будавала ўласныя замкі і палацы і нават сумесна з вялікім князем кіравала дзяржаваю. Шляхта лічыла сваю дзяржаву найдасканалейшай, яна ганарылася сваімі правамі: выбіраць кіраўніка, прымаць дзяржаўныя рашэнні, валодаць зямлёй – таму мужна і аддана пралівала кроў за свабоду Радзімы.

У 16—17 стагоддзях найлепшую частку войска Вялікага Княства Літоўскага складалі крылатыя гусары. Гусарамі называлі вершнікаў (гл. Слоўнічак, с. 24) у цяжкіх рыцарскіх даспехах. Але чаму крылатыя? Бо да сёдлаў іх коней мацаваліся канструкцыі з дрэва і пер’яў, якія здалёк нагадвалі вялізныя крылы. Гэтыя крылы былі вышэйшыя за коннікаў, якія сядзелі ў сёдлах. І, калі ў ранішнім тумане харугва (гл. Слоўнічак, с. 24) крылатых гусараў ішоў у наступ, ворагам здавалася, што на іх рухаюцца веліканы. А калі гусары пускалі коней на ўсю моц, у пер’і пачынаў гудзець вецер! Гэты гук ад сотняў крылаў выклікаў у ворага страх і паніку. Крылатыя гусары амаль не ведалі паразаў, перамагчы іх было вельмі цяжка.






Побач з беларускімі рыцарамі-шляхтаю заўжды былі чароўныя дамы. Панны Вялікага Княства Літоўскага славіліся сваёй прыгажосцю па ўсім свеце. Колькі неверагодных гісторый кахання данесла да нас мінуўшчына! Напэўна, найпрыгажэйшая з усіх – гісторыя кахання вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста і князёўны Барбары Радзівіл. Уладар закахаўся ў сваю пекную падданую. Старанна хавалі Жыгімонт і Барбара свае пачуцці: Жыгімонт нават хадзіў да каханай праз падземны ход, пракладзены паміж вялікакняскім палацам і палацам Радзівілаў.

Але цяжка вялікаму князю мець таямніцы! Людзі даznаліся пра каханне, і супраць няроўнага шлюбу паўстала ўсё Княства. Аднак, нягледзячы на ўсе перашкоды, маладыя ўсё ж пабраліся шлюбам і зажылі шчасліва.

Барбара – раней усяго толькі падданая – стала вялікай княгіняй! Але нядоўгім было шчасце. Праз чатыры гады шлюбу Барбара захварэла і памерла. Хадзілі чуткі, што яе атруцілі нядобразычліўцы (падазравалі нават маці Жыгімонта, італьянку Бону Сфорцу!). Страта жонкі стала для Жыгімонта страшным горам і да канца жыцця ён не змог забыцца на сваё каханне да Барбары…

Гэта гісторыя не толькі сумная, але павучальная: цаніце, што маеце, беражыце і шануйце тых, каго любіце, кажыце ім пра сваю любоў штодня.

А Барбара і Жыгімонт не памерлі – яны жывуць у паданнях, кнігах, казках і карцінах.



**У якім горадзе Жыгімонт і Барбара таемна павянчаліся? Ты зможаш пра гэта даведацца, калі выканаеш наступнае заданне!**

**Выканай прыклады і запішы ў табліцу вынікі ад найменшага да найбольшага разам з літарамі, якія да іх адносяцца.**

*Падказка: гэты горад быў сталіцай Вялікага Княства Літоўскага.

| | |
|---|---|
| 7 × 6 = | Ь |
| 5 × 9 = | Н |
| 23 + 8 = | В |
| 75 – 40 = | Л |
| 8 × 4 = | І |
| 88 – 33 = | Я |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| лічбы | | | | | | |
| літары | | | | | | |

# Рыцарскія турніры

Самым вялікім рыцарскім святам былі турніры. На іх з’язджалася мноства гасцей, у тым ліку кароль са сваёй світай, каб паглядзець, як рыцары будуць змагацца паміж сабой. Спаборніцтвы на турнірах былі розныя. Напрыклад, двубой. Два рыцары сядалі на коней, бралі дзіды наперавес і з усяго духу нясліся насустрач адзін аднаму, спрабуючы выбіць праціўніка з сядла. Дзіды звычайна бралі тупыя, каб моцна не пакалечыць суперніка. Таксама на турнірах рыцары змагаліся на мячах, паказвалі сваё ўменне ездзіць на кані. Бывалі і “камандныя гульні” – калі рыцары дзяліліся на дзве каманды і ладзілі невялікую бітву. Турніры мелі пэўныя правілы. Напрыклад, забаранялася раніць коней.

Рыцар, які перамагаў у спаборніцтве, атрымліваў прыз: баявога каня і даспехі, якія тады вельмі дорага каштавалі.

Кожны з удзельнікаў турніру абвяшчаў імя сваёй дамы сэрца. На шлемах, шчытах і даспехах рыцары мацавалі падораныя дамай стужачкі ці бранзалеты.

**Паспрабуй знайсці 10 адрозненняў паміж рыцарамі, якія прыехалі на каралеўскі турнір!**



# Замкі

Рыцарскія замкі з'явіліся на тэрыторыі Беларусі ўжо ў 13-м стагоддзі. Часцей за ўсё яны мелі форму чатырохкутніка. Даўжыня кожнай сцяны была каля 500 метраў (амаль як адлегласць ад Нацыянальнага гістарычнага музея да чыгуначнага вакзала), а таўшчыня складала ажно 3 метры! Па вуглах стаялі магутныя вежы, вышыня якіх магла сягаць 25-ці метраў (як сяміпавярховы дом!) і дазваляла ўбачыць ворожае войска, калі тое было яшчэ далёка. Замкі будаваліся ў зручных для абароны месцах: або ў нізіне (тады рыцараў надзейна аберагала балота), або, наадварот, на пагорку. Здалёк было відаць гэтыя ваяўнічыя муры!

**Васілёк і Цікаўка наведалі Гальшаны і паспрабавалі ўявіць, як выглядаў замак некалькі стагоддзяў таму, у час яго росквіту. Нашыя вандроўнікі прапануюць далучыцца і табе. Размалюй выяву Гальшанскага замка!**

Замкаў на Беларусі было вельмі многа, а адным з самых знакамітых быў Гальшанскі. На жаль, да нашых дзён ён дайшоў амаль разбураным. Але, нягледзячы на гэта, руіны замка нагадваюць пра яго былую веліч і магутнасць.



Брат і сястра Уладзіслаў (будучы кароль польскі і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў IV) і Ганна Марыя Вазы. Партрэты мастака Марціна Кобера, 1596 год.




# Выратаванне Анэлі

Калісьці даўным-даўно, у тыя часы, якіх не памятае нават твая прабабуля, жыў у Беларусі вялікі і моцны Цмок. Ён жыў у агромністай пячоры і меў надзвычай люты нораў. З'явіўся на свет гэты Цмок з каменнага яйка, якое ляжала ў той пячоры, здаецца, ад пачатку свету. Ляжала сабе ляжала — аж раптам заварушылася. А пасля выпаўзла з пячоры пачвара — уся ў залацістай лусцэ, караткалапая, кіпцюрастая, з шыпамі на спіне і вострымі, бы нажы, ікламі.



Разам з Цмокам у тых мясцінах пасяліўся страх. Цмок пільна сачыў, каб ні чалавек, ні жывёла не паквапіліся на яго ўладанні. Людзі абыходзілі бокам пячору і яе ваколіцы, а калі хто раптам трапляў туды, то дамоў ужо не вяртаўся.

Далёка ад гэтых цёмных мясцін, на ўзвышшы, стаяў замак, аточаны высокім і моцным мурам. У замку жыла прынцэса, якую звалі Анэля. Славілася дзяўчына хараством на ўсю ваколіцу. І ростам высокая, і тварам чароўная, і вочы — колеру марской хвалі. Сваталіся да Анэлі іншаземныя прынцы, знатныя і багатыя, адзін прыгажэйшы за іншага. Дарагія падарункі, залатыя вырабы ды каштоўныя камяні везлі. Але нішто не кранала сэрца дзяўчыны. Ніводзін жаніх ёй не прыйшоўся даспадобы. З усіх яна пацяшалася ды насміхалася, а потым праганяла. Раззлаваўся тады кароль і загадаў Анэлі ўзяць шлюб з рыцарам, які пераможа ў турніры.

Перад турнірам жыццё ў замку ажывілася. Сталыя рыцары ўзгадвалі часы, калі яны самі ўдзельнічалі ў спаборніцтвах. Маладыя марылі пра перамогу і славу. Дамы вымалі з куфраў свае найлепшыя сукенкі. У іх быў свой турнір: якая будзе выглядаць найпрыгажэйшай, у якой будзе самае шыкоўнае ўбранне.

Моцныя, слаўныя рыцары ў бліскучых даспехах з'язджаліся з усяе ваколіцы. Паўсюль віселі сцягі і гербы, панаваў святочны настрой. Герольд затрубіў у трубу, абвясціў аб пачатку турніру.

Доўга і адважна біліся мужныя рыцары. Кожны хацеў заваяваць сэрца прыгажуні Анэлі. Але поспех у гэты дзень быў на баку слаўнага Віценя. Рыцар гэты быў роду знакамітага, характару цвёрдага і паўжыцця правёў у войнах.



Анэля, здзіўленая мужнасцю і моцай Віценя, закахалася з першага погляду. Кароль прызначыў дзень вяселля. Але раптам прыйшла бяда адкуль не чакалі: ноччу прыляцеў велізарны Цмок і, ухапіўшы прынцэсу, аднёс у сваю пячору. Віцень пакляўся ратаваць каханую, чаго б гэта ні каштавала. Выправіўся ён у небяспечнае падарожжа да цмокавай пячоры. Некалькі дзён ехаў праз горы і лясы. А калі наблізіўся да пячоры, дык убачыў жахлівую карціну: паўсюль раскіданыя косткі людзей і жывёл, трава і дрэвы выпаленыя. Стаў Віцень углядацца ў цемру пячоры — нідзе не відаць Цмока. Толькі раптам ускрыкнула за спінаю рыцара Анэля! Абярнуўся ён, а Цмок трымае ў кіпцюрах яго каханую! Вочы гараць, пашча з вострымі ікламі раззяўленая. Зароў Цмок, выпусціў з кіпцюроў Анэлю ды на Віценя кінуўся. Але спрытны Віцень паспеў адскочыць і сустрэў Цмока ўдарам мяча. Звонка біў меч па залацістай цмокавай лусцэ, ажно іскры ляцелі, але пачвары ад таго не было ніякай шкоды. Не прабівае клінок яго тоўстую скуру! Моцна насядаў Цмок на Віценя. Вось ужо кіпцястай лапай разбіў ён у трэсачкі шчыт, вось і меч зламаўся. Схапіў рыцар дзіду, нацэліў у сэрца Цмоку, але ўдарыць не паспеў: цмок крутануўся і абрынуў свой моцны шыпасты хвост на Віценя. Што рабіць мужнаму рыцару? Цмок выбіў дзіду, а болей зброі ў Віценя не было. І схапіў ён тады цмока за хвост ды пачаў раскручваць. Цмок упіраўся, спрабаваў зачапіцца лапамі за зямлю, махаў крыламі, але зрабіць нічога не мог. Віцень раскруціў яго і з усяе сілы запусціў у неба. Паляцеў Цмок высока, амаль да самага сонейка. Падпаліла яно яму крылы, і пачаў цмок падаць. Зваліўся на ўзгорак і ператварыўся ў вялізны камень. Залатая луска, якой была пакрытая цмокава скура, паадлятала ад удару і рассыпалася па зямлі скарбамі, якія да гэтых часоў сям-там знаходзяць у Беларусі.

А мужны рыцар Віцень і прыгажуня Анэля пасля ўсіх выпрабаванняў вярнуліся дадому, згулялі шыкоўнае вяселле і жылі сабе шчасліва. Можа, і цяпер недзе жывуць.





ВЯСЁЛЫЯ ЦІКАВОСТКІ

## Праз агонь і ваду



Пра сілу рыцараў з нашай зямлі складалі легенды. У адной хроніцы апісаны выпадак, які здарыўся ў пачатку 16 стагоддзя на рацэ Дняпро. Наравісты конь данёс рыцара да сярэдзіны ракі і раптам скінуў у ваду. Рыцар у цяжкіх даспехах адразу пайшоў на дно. Яго аплаквала 3-тысячнае войска і вялікі князь Жыгімонт, які стаў сведкам здарэння. Аднак рыцар аказаўся настолькі дужым, што, пераадольваючы ціск вады, дайшоў да берага па дне ракі, глытнуўшы ваду ўсяго двойчы, як сам потым расказваў. А вялікі князь стаў вельмі шанаваць гэтага адважнага віцязя.

## Кававы трафей




Мы п'ём розную каву: чорную, з карыцай, перцам, малаком, вяршкамі... А маглі б і не ведаць усіх гэтых смакотаў, калі б не смеласць і кемлівасць нашых продкаў-рыцараў! Кава трапіла на нашы землі пасля бітвы еўрапейскага рыцарства з турэцкім войскам пад аўстрыйскім горадам Вена ў 1683 годзе. Падчас бітвы рыцары захапілі 500 мяхоў кавы. Спярша еўрапейцы палічылі, што кававыя зярняты – корм для вярблюдаў, і ўжо хацелі выкінуць мяхі ў раку (бо вярблюдаў, на жаль, не мелі). І раптам адзін знакаміты рыцар папрасіў аддаць яму мяхі – як узнагароду за смеласць у бітве. Гэты рыцар прывёз каву на нашу зямлю і адкрыў першую кавярню. Ён жа прыдумаў дадаваць у гаркаваты напой мёд і малако. Менавіта кава з малаком стала надзвычай папулярнай сярод нашых продкаў.

## Абцасы для рыцара

Цяпер ланцужкі, футры, туфлі ды боцікі на высокіх абцасах носяць толькі дзяўчаты. Але раней такія ўпрыгожванні былі вельмі модныя сярод самых знатных і мужных рыцараў! Рыцары ўпрыгожвалі сябе і брошкамі: іх чаплялі на вопратку, а таксама на галаўны ўбор – чапец або бярэт. Вельмі моднымі былі мужчынскія шаравары, якія шылі з дарагіх усходніх тканін і называлі "шаловары". Мужчыны ўпрыгожвалі вопратку карункамі, стужкамі, бантамі... Паколькі іх жыццё магло абарвацца ў любой бітве, рыцары радаваліся кожнаму дню і любілі насіць вопратку яркіх, жыццярадасных колераў.



# Як пахлі рыцары



Высакародныя рыцары і дамы вельмі любілі прыгожа апранацца, а вось мыцца не любілі! Некаторыя мыліся раз-два на год. Мець ванну і туалет у тыя часы было сапраўднай раскошай. Напрыклад, туалет быў у замку вялікага князя. Гэта была глыбокая яміна ў некалькі паверхаў, якую чысцілі раз на сто гадоў! А большасць людзей вылівалі памыі проста са сваіх акон! Уявіце, як пах сярэднявечны горад! Але калі б рыцары мелі такую прыгожую і зручную ванну, як у нас, яны б мыліся штодня – з мылам і шампунем. Памятайце: рыцар нашага часу павінен пахнуць добра!

# Меч і кніга



Рыцары і дамы не толькі ваявалі, палявалі і балявалі. Яны любілі чытаць. Некаторыя мелі дома тысячы кніг! Паколькі шафаў тады яшчэ не прыдумалі, кнігі трымалі ў куфрах і скрынях. Вечарам пры святле свечкі або каміна рыцар чытаў услых для сваёй дамы і дзетак. Чыталі і рэлігійныя кнігі, найперш Біблію, і цікавыя захапляльныя аповесці пра прыгоды рыцараў. Мужчыны асабліва любілі апісанні боек і бітваў з удзелам рыцараў. Жанчынам падабалася слухаць пра смелых і вынаходлівых дам, напрыклад, царэўну Дружнену. Аднойчы Дружнена сядзела на піры, але не магла думаць пра страві – усе яе думкі былі пра каханага рыцара. Таму яна наўмысна ўпусціла пад стол нож, а калі яе рыцар, Бава, нахіліўся, каб яго падняць, Дружнена таксама нахілілася нібыта за нажом, а сама пад сталом абняла Баву і пацалавала. "І заліўся Бава чырванню, нібы ружа, а шляхетная панна, пазіраючы на Баву, не магла наглядзецца".

# Надгробкі



Жыццё рыцара было непрадказальным і цяжкім, таму ён з маладосці пачынаў дбаць пра тое, каб пакінуць памяць пра сябе. Паколькі фатаграфій тады яшчэ не было, захаваць сваю выяву на вякі можна было замовіўшы партрэт або скульптуру. Такія скульптуры пасля смерці рыцара змяшчаліся на месцы пахавання. Скульптуры з мармуру рабіліся доўгія гады, і ўвесь гэты час чалавек пазіраваў майстру. На скульптуры рыцар звычайна ляжыць на баку, абапёршыся на руку. Вочы яго заплюшчаныя, як быццам ён заснуў на хвілінку і вось-вось прачнецца. Рыцара выяўлялі ва ўсім аблачэнні, са зброяй. Побач скульптар змяшчаў фігуру яго жонкі. Праз партрэты і скульптуры нашы продкі-рыцары і цяпер могуць усміхнуцца нам, сваім нашчадкам.




**Наша сяброўка Цікаўка шмат распавяла Васільку і пра Сярэднія вякі, і пра мужных рыцараў ды чароўных дам, і пра беларускую ваяўнічую шляхту. Уважліва слухаў Васілёк, а пасля пытаецца: “ А ці можна сёння дзе-небудзь адшукаць рыцараў? Вельмі хочацца да іх далучыцца!”**

**“Далучыцца да рыцараў – вельмі проста, – праціўкала Цікаўка. – Калі ты бароніш меншых, дапамагаеш старым, не крыўдзіш дзяўчынак, дамагаешся справядлівасці і любіш сваю Айчыну – ты смела можаш лічыць сябе сапраўдным нашчадкам рыцараў. А зброю і рэчы старадаўніх рыцараў ты можаш пабачыць у музеі”.**

У Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі захоўваецца больш за 450 тысяч прадметаў! І значная частка музейнага збору прысвечаная гісторыі рыцарства і шляхты на беларускіх землях.

Тут ты зможаш пабачыць сапраўдныя рыцарскія даспехі і зброю розных стагоддзяў, шляхецкія гербы ды партрэты знакамітых рыцараў беларускага мінулага.

Напрыклад, адзіны прыжыццёвы партрэт Льва Сапегі. Гэта быў славуты магнат (магнатамі называлі найбагацейшых рыцараў, якія мелі вялікі ўплыў у дзяржаве). Ён жыў у 16 стагоддзі і праславіўся тым, што склаў для нашых продкаў найлепшыя ў Еўропе законы.




**Заданне: Абяры кожную трэцюю літару і ты даведаешся, як называўся галоўны зборнік законаў у Вялікім Княстве Літоўскім.**
**(Рухайся па гадзіннікавай стрэлцы)**

Які ж музей без рыцарскай зброі! Улюбёнай зброяй беларускай шляхты была шабля. На жаль, мы рэдка з дакладнасцю можам сказаць, каму належала тая ці іншая зброя. Аднак у Нацыянальным гістарычным музеі захоўваецца шабля з подпісам – “Караль Станіслаў Радзівіл – ваявода віленскі”. Караль Станіслаў – слаўны шляхціц, абаронца сваёй Радзімы. Ён жыў у 18-м стагоддзі, у вельмі цяжкія для краіны часы. Усё сваё жыццё ён змагаўся супраць ворагаў за незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага. Караль Станіслаў быў вясёлым чалавекам і да ўсіх звяртаўся “пане каханку”, што значыла “мой дарагі” – за гэта і сам атрымаў мянушку “Пане Каханку”. Таксама яго называлі “беларускі барон Мюнхгаўзен”, бо ён любіў расказваць дзіўныя і часам непраўдзівыя гісторыі пра свае неверагодныя прыгоды. Караль Станіслаў Радзівіл любіў прыгожае адзенне, а таксама прыгожую зброю. Больш даведацца пра гэту шаблю ты зможаш у нашым музеі.



Калі ты цікавішся гісторыяй і хочаш з карысцю правесці вольны час – смела выпраўляйся на пошукі слаўных рыцараў і чароўных дам! У Мінску існуе шмат розных гурткоў для аматараў Сярэднявечча і гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.
Ты можаш абраць любы з іх!



**Клуб гістарычнай рэканструкцыі "Гівойт" займаецца рэканструкцыяй (узнаўленнем) культуры Вялікага Княства Літоўскага 15-16-га стагоддзяў: даспехаў, зброі, касцюмаў і прадметаў штодзённага жыцця. Клуб удзельнічае ў фестывалях сярэдневечнай культуры не толькі ў Беларусі, але і за мяжой.**



**Вандроўны тэатрык "Гістрыён" першапачаткова ўзнік як танцавальны калектыў, але цяпер удзельнікі клуба займаюцца не толькі танцамі эпохі Сярэднявечча, але і народнымі танцамі Беларусі і іншых краін свету. Яны таксама ўдзельнічаюць у фестывалях сярэднявечнай культуры як тэатральная трупа. Нават у зімовыя халады тут не будзе сумна дзякуючы вясёлай кампаніі і актыўным рухам! :)**



**Ну, а які ж рыцар без надзейнага каня? Конна-гістарычны клуб "Залатая шпора" кожнаму ўдзельніку дапаможа знайсці нешта сваё – ад рамантычнага Сярэднявечча да Дзікага Захаду! Удзельнікаў клуба аб'ядноўвае не толькі цікавасць да гісторыі, але і любоў да коней.**

**Давай праверым, наколькі ўважліва ты чытаў часопіс! Прапануем табе разгадаць крыжаванку і даведацца, як называўся памочнік дарослага рыцара ў Сярэднія вякі (слова па вертыкалі). Поспехаў!**




**Па гарызанталі:**

**1**. Абарончае збудаванне і ўмацаванае жытло рыцараў.
**2**. Халодная зброя з выгнутым лязом.
**3**. Агульная назва для конных воінаў у Сярэднія вякі.
**4**. Так называлі хлопчыка, які знаходзіўся на службе ў знатнай асобы; таксама гэта першая ступень да пасвячэння ў рыцары.
**5**. Так называлі рыцараў у Вялікім Княстве Літоўскім.
**6**. Урачыстае спаборніцтва рыцараў.
**7**. Звод правілаў паводзін, якіх павінен быў трымацца рыцар.
**8**. Абарончы рыштунак рыцара.
**9**. Выява на шчыце рыцара, якая лепш за ўсё распавядала пра яго якасці.
**10**. Фантастычная істота; галоўны вораг рыцараў у казках.

## Слоўнічак



**Вершнік** (коннік) – воін на кані.

**Дружыннік** – ваяр або воін княскага войска.

**Рыштунак** – сукупнасць прадметаў, неабходных для якой-небудзь дзейнасці.

**Харугва** – атрад рыцарскага войска.

# Адказы:

**С. 6** - 46 кароў.

**С. 13 Рэбусы**:
Бітва, слава, конь, герб, замак

**С. 15**
Лічба 31 32 35 42 45 55
Літара в і л ь н я

**С. 16 Адрозненні**:



**С. 22** Статут

**С. 24 Крыжаванка**:

па вертыкалі:
1. Замак; 2. Шабля; 3. Рыцар;
4. Паж; 5. Шляхта; 6. Турнір;
7. Кодэкс; 8. Даспех; 9. Герб;
10. Цмок;
па гарызанталі:
Збраяносец


**Адукацыйна-забаўляльны гістарычны часопіс для дзяцей "Музейныя вандроўкі"**

Галоўны рэдактар: **Дар'я Астрагаловая**
Рэдакцыйная калегія: **Кацярына Далінская, Сяргей Ганчарэнка**
Карэктура: **Паўліна Скурко**
Мастак/дызайнер, вёрстка: **Кацярына Першына**
Мастак: **Ганна Васільчыкава** (с. 8-9)
Аўтары тэкстаў: **Дар'я Астрагаловая** (с. 4-5, 6-7, 10-11, 12, 17, 22-23)
**Ганна Васільчыкава** (с.8-9, 24)
**Вольга Галаско** (с.13, 18-19)
**Сяргей Ганчарэнка** (с.4-5, 16, 20-21)
**Паўліна Скурко** (с.4-5, 18-19)
Аўтары фотаздымкаў прадметаў са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь: **Алег Лукашэвіч, Андрэй Аляксееў** (с.22)
За падбор і прадастаўленне ілюстрацый дзякуй **Змітру Герасімовічу**


Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь запрашае здзейсніць захапляльнае падарожжа ў мінулае! Дзяцей мы запрашаем на музейныя заняткі: «Далёкіх прадзедаў запавет», «Вандроўка па палескім падворку», «Лялькі з бабулінага куфэрка», «Археалагічныя раскопкі», «Сакрэты ткацкага рамяства», цыкл заняткаў «Адкуль наш род».

Кожны знойдзе для сябе нешта цікавае і ў залах пастаяннай экспазіцыі: «Беларусь у партрэтах і геральдыцы XVI-XVIII стагоддзяў», «Мастацтва ў гарадской культуры канца XIX – пачатку XX стагоддзяў», «Вялікая прэзентацыя музейных рэліквій: 79 прыступак углыб гісторыі».

Наведвальнікаў не расчаруюць экспазіцыі і выставы філіялаў Нацыянальнага гістарычнага музея: Музея прыроды і экалогіі, Музея гісторыі беларускага кіно, Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці, Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, Дома-музея I з'езда РСДРП.





**Дадатковую інфармацыю ты можаш атрымаць:**
Тэл.: (8-017) 327-43-22, 327-48-27
Сайт: http://histmuseum.by/
Наш адрас: г. Мінск, вул. К. Маркса, 12

# Праекты кампаніі velcom для дзяцей

velcom





## Дабрачынны праект #velcombegom

velcom працягвае кампанію па зборы сродкаў на будаўніцтва новага будынка Беларускага дзіцячага хоспіса. Кожны абанент velcom да 31 снежня 2015 года можа адправіць на кароткі нумар 2015 паведамленне з тэкстам velcombegom або патэлефанаваць на гэты нумар, і з яго рахунку спішацца 10 000 рублёў на карысць дзіцячага хоспіса.

У верасні кампанія velcom ужо перадала дзіцячаму хоспісу першы транш у памеры 231 500 000 рублёў. Гэтая сума была сабраная ў выніку ахвяраванняў на кароткі нумар 2015 і дабрачыннага дзіцячага забегу #velcombegom. 6 верасня пад патранажам пасла дабра кампаніі velcom Аліны Талай ў Парку Перамогі прайшоў забег у межах акцыі #velcombegom, у якім узялі ўдзел больш за 500 хлопчыкаў і дзяўчынак.

## Сацыяльны праект «Чытаем па-беларуску з velcom»

8 кастрычніка ў Мінску прайшоў першы ўрок новага адукацыйнага праекта «Чытаем па-беларуску з velcom». Цягам 3 месяцаў больш як у 30 школах Мінска, а таксама ў 2 школах для дзяцей з асаблівасцямі развіцця пройдуць урокі па адмыслова распрацаванай праграме. Вучні 2–3 класаў не толькі пазнаёмяцца з сучаснай беларускай літаратурай і пісьменнікамі, але і атрымаюць практычныя лінгвістычныя навыкі.

Ініцыятарам праекта з'яўляецца кампанія velcom пры падтрымцы Камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама. Настаўнікамі праекта «Чытаем па-беларуску з velcom» стануць: беларускі дзіцячы пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка», лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ліпскі, пісьменніца, лаўрэатка Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Раіса Баравікова, пісьменніца-казачніца Алена Масла, паэтка і публіцыстка Таццяна Сівец, а таксама вядомы беларускі акцёр і тэлевядучы Юрый Жыгамонт.

## Супрацоўніцтва з арганізацыяй «Дзеці. Аўтызм. Бацькі»

1 кастрычніка міжнародная дабрачынная грамадская арганізацыя «Дзеці. Аўтызм. Бацькі» і кампанія velcom абвясцілі аб пачатку супрацоўніцтва. Пры падтрымцы velcom зараз распрацоўваецца арыгінальны праграмны прадукт «Камунікатар для дзяцей і дарослых з аўтызмам». Гэты мабільны дадатак будзе даступны для запампоўкі ўжо ў снежні 2015 года.

Таксама 1 кастрычніка ў галоўным офісе кампаніі velcom у Мінску адбылася прэзентацыя фотавыставы «Аўтызм. Мяне гэта тычыцца» – сумеснага фотапраекта арганізацыі «Дзеці. Аўтызм. Бацькі» ды дзіцячага і сямейнага фатографа Марыі Шаўчэнка. Фотапраект «Аўтызм. Мяне гэта тычыцца» – гэта адзінаццаць сямейных фотапартрэтаў, героямі якіх сталі не толькі дзеці і дарослыя з аўтызмам, але і іх родныя браты і сёстры.

